памагаць і служыць радамі ўраду адносна розных мерапрыемстваў, прадбачаных у пляне. Праз міністра фінансаў будуць яму даны тыя інфармацыі, якія ён палічыць патрэбнымі для выкананьня сваіх абавязкаў, прадбачаных у пляне. Кожныя тры месяцы дарадца будзе даваць справаздачу аб поступе рэалізацыі пляну ў паасобных пунктах".

**„Дарадца будзе выконваць пэўныя функцыі прадстаўніка фіскальных агентаў пазыкі. Асобе, спаўняючай абавязкі дарадцы, могуць быць даручаны ўсялякія функцыі, якія, магчыма, будуць прадбачаны ў якіх небудзь дагаворах, на аснове якіх заграпічныя банкі, на жаданьне Польскага Банку, згодзяцца даць крэдыт Польскаму Банку.**

Заграпічны сябра Рады Банку будзе выбраны на працяг трох гадоў. Калі дарадца ў канцы 1929—1930 бюджэтнага году прызнае, што праграма ня выпаўнена здавальняюча, тады ўрад супольна з дарадцай дасьледзіць сітуацыю і ўсталіць супольна з ім, якія вымогі пляну павінны выпаўняцца надалей і як доўга.

**У выпадку паўстаньня якога небудзь непаразуменьня на груньце пляну між урадам і дарадцам, кожная з старон выбярa свайго прадстаўніка і яны абодва будуць старацца залагодзіць супярэчнасьці. Калі яны не дасягнуць паразуменьня, дык тады абодва прадстаўнікі выбіраюць трэйцюю асобу іншай нацыянальнасьці, як арбітраж, пастанова якой будзе ўжо акзнчальнай.**

Апрача ўсяго гэтага, дарадца мае яшчэ права кантролю над разьмяшчэньнем пазычаных сум. Прыход ад прадажы пазычкі будзе ўнесены ў Польскі Банк. **Усялякае распараджэньне гэтымі сумамі будзе вымагаць упаважненьня, або подпісу дарадцы.** Купленыя ўрадам, за пазычаныя сумы, акцыі Польскага Банку новай эмісыі будуць таксама знаходзіцца ў дарадцы на рахунку польскага ўраду. Гэтыя акцыі будуць прадавацца „publiczności" на рахунак ураду. Ня ведама аднак, якая гэта будзе „publiczność", ці то грамадзяне Польшчы ці інш. краёў аб гэтым ня сказана.

Дарадца мае яшчэ і права кантролю над распараджэньнем сумамі скарбовай рэзэрвы. Урад паложыць у Польскі Банк 75 мільёнаў злотых, як скарбовую рэзэрву.

**Распараджацца скарбовай рэзэрвай можна толькі тады, калі дакажацца дарадцу неабходнасьць даньня магчымасьці скарбу пакрыць бягучыя сэзонныя выдаткі.** Сумы гэтыя павінны быць зьвернуты ў працягу 6 месяцаў. Скарбовая рэзэрва ня можа быць ні зьнішчанай, ні зьменшанай, пакуль Польскі Банк і дарадца ня прыдуць да пераканаваньня, што рынавачныя варункі для атрыманьня каротка-тэрміновых унутраных пазык здавальняюча ўстабілізаваны.

(Працяг будзе).

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

### Калі адбудуцца выбары?

Блізкія да ўраду газэты паведамляюць, што срок роспуску Сойму яшчэ ня ўсталены. У кожным выпадку адзначаюць, што выбары адбудуцца гэтай зімой. У ўрадовых колах існуюць два праекты, паводлуг першага праекту, Сойм і Сэнат павінны быць разьвязаны яшчэ ў гэтым месяцы. Выбары былі бы тады ў студзені. Паводлуг другога праекту, Сойм і Сэнат павінны быць распушчаны ў канцы лістапада. Пагалоскі аб даўжэйшым трываньні Сойму і Сэнату, чым да канца лістападу, шчэзлі

Адна з урадавых газэт падала навет даты, у якіх адбудзецца роспуск, выбары і адчыненьне новага парляманту. Паводлуг яе, Сойм і Сэнат будуць распушчаны 30 лістапада, выбары адбудуцца 25 лютага, а адчыненьне новага парляманту адбудзецца 19 га сакавіка. Другая ўрадавая газэта запярэчыла гэтым весткам, як перадчасным, кажучы, што пэўныя даты ўрадам яшчэ ня ўсталены.

### Прадвыбарныя камбінацыі.

У прэсе зьявіліся апошнімі днямі весткі аб розных прадвыбарных камбінацыях, некаторыя з іх прыводзім ніжэй:

1) Паўстае быццам выбарны блёк даўнейшай Хіены: Эндэкаў, хадэкаў і групы Строньскага.

2) Вялікі блёк Хіена-Пяст., Н. П. Р, правіца.

3) Асобная ліста кансэрватараў Сапега. Радзівіл, Строньскі.

4) Дзяржаўны блёк „Строньніцтво хлопске", „Партыя Працы", „Związek Naprawy", група віленскіх манархістаў, Строньніцтво Народовай правіцы.

5) Сьпісак запраўдных пілсудчыкаў: Партыя Працы, Zw. Naprawy, група „Głos Prawdy". Ясна, што ўсё гэта магчыма. Пэўнага нічога няма. Падаем. гэтыя весткі толькі з мэтай інфармацыі нашых чытачоў. Варта адзначыць аднак, што, напрыклад, гэткі сьпісак Радзівіл, Брыль і Касцялкоўскі выглядае на мала праўдападобны.

### Арганізацыя блёку нацыянальных меншасьцяў.

11 X. 27 г. зьмясьціла „Эпока", паўафіцыяльны орган ураду, наступныя вельмі цікавыя рэвэляцыі: У мінулую ноч адбываліся нарады найвышэйшай сіоністычнай рады. Пастаноўлена стварыць супольны блёк жыдоўскіх мяшчанскіх групаў. У склад блёку маюць увайсьці сіоністы, мізрахісты, дробныя купцы і рамесьленьнікі, а таксама жыдоўская Партыя Працы Гітакдут.

З Ортодоксамі (Прававерымі) дагэтуль лучнасьць не навязана з прычыны лішня вялікіх прэтэнсый. Вышэй пералічаныя жыдоўскія групы маюць увайсьці ў выбарны блёк, абымаючы, як шаснастка на прошлых выбарах, усе нацыянальныя меншасьці Польшчы. Працы над гэтым вядуцца інтэнсыўна з розных бакоў. Да гэтага блёку павінны далучыцца і ўсе нямецкія групы.

Вядуцца ажыўленыя перагаворы між зарысоўваючымся жыдоўскім блёкам і ўкраінцамі, беларусамі і расейцамі. У часе гэтых нарадаў быў прачытаны ліст пасла Рэйха з Львова, у якім ён паведамляе аб заключэньні ўступнай мовы з правадыром украін. Лявіцкім у справе супольнай выбарнай тактыкі ў Усходняй Галіцы.

Падобныя інфармацыі падае і другая ўрадовая газэта „Кур'ер Поранны", дадаючы, што: „жыдоўскія газэты атрымалі інструкцыі не закранаць гэтага пытаньня". Паводлуг інфармацыі „Słowa", нямецкія групы ўжо прыступілі да блёку.

### Справа Прэсавага Дэкрэту.

На пісьмо Ратая, зьмешчанае ўжо ў нашай газэце, Пілсудскі паслаў наступны адказ:

Да п. Маршалка Сойму
Рэчыпасп. у Варшаве.

Сьцьвярджаючы атрыманьне ліста з 26. X. 1927 г., паведамляю ў паразуменьні з міністрам справядлівасьці, што не знаходжу ў зьмесьце ліста п. Маршалка падстаў для зьмены становішча, уматываванага ўжо раней у маім лісьце з 23. IX. 1927 г., высьвяляючы повады, па каторым урад прызнае распараджэньне Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай з дня 10. V. 1927 г. за абавязуючае і надалей.

Старшыня рады міністраў.
Я. Пілсудскі,

Варшава, 8/X. 1927 г.

Гэткім чынам прэсавы дэкрэт і надалей застаецца ў сіле, ня гледзячы на пастановы Сойму. Ці-ж трэба лепшага, яскравейшага сьцьверджаньня дыктатуры?

### Лёс пасла Пашчука.

Камуністычная пасольская фракцыя выдала камунікат, у якім падае да ведама, што былы яе сябра пасол Пашчук, пасьля абвешчаньня свайго пераходу ў украінскі клюб, напісаў у фракцыю просьбу аб прыняцьці яго ізноў у лік яе сяброў. Камуністычная пасольская фракцыя адмовіла просьбе пасла Пашчука, кажучы, што ягоны выхад з фракцыі зьяўляецца слабасьцяй, а ў яе радох няма мейсца для слабых людзей.

### Становішча Ратая.

Як паведамляюць газэты, марш. Сойму Ратай ня зьбіраецца адказываць на пісьмо Пілсудскага ў справе прэсавага дэкрэту. Ратай зьбіраецца склікаць толькі прэзыдыум Сойму і паведаміць віцэ-маршалкаў аб зьмесьце ліста Пілсудскага. Толькі гэта. Больш пану маршалку нічога не застаецца.

## Заграніцай.

### Безрабоцьце ў Англіі расьце.

Згодна апошняй статыстыцы, лік безработных у Англіі стала расьце. На 3 га кастрычніка с. г. усіх безработных лічылася 1.075.900 асобаў, г. ё. на 25.785 асобаў больш, як у папярэднім тыдні.

### Дэлегацыя англійскіх работнікаў едзе ў Маскву.

Англійскія буржуазныя газэты забілі трывогу, што сацыялісты ў паразуменьні з прадстаўнікамі Трэд-Юніонаў пастанавілі паслаць дэлегацыю, зложаную з 50 асобаў у Маскву для выражаньня брацкіх пачуцьцяў расейскаму пралетарыяту ў зьвязку з урачыстасьцямі сьвяткаваньня дзесятых угодкаў кастрычнікавай рэвалюцыі.

Асабліва незразумелым для англійскай буржуазнай прэсы зьяўляецца тое, што ўсяго некалькі тыдняў таму, падчас Кангрэсу Трэд Юніонаў сацыялісты праз галасаваньне выракліся ўсякай лучнасьці з расейскімі камуністамі.

Цяпер-жа стараньнем Трэд - Юніонаў утварыўся спэцыяльны Камітэт, які пастанавіў зьбіраць складкі сярод работнікаў на падарожжу дэлегацыі і запэўненьня быту пакіненых сем'яў.

Некаторыя газэты бачаць у гэтым прадвыбарны манэўр трэд-юніонаў, а калі так, то можна лёгка судзіць, як ацэньвае англійская буржуазія настрой работніцкіх гушчаў.

### Адазваньне Ракоўскага.

Маскоўскія газэты паведамляюць, што староста СССР Калінін падпісаў дэкрэт, якім адзывае з Францыі радавага пасла Ракоўскага. Адначасна з гэтым павінен зьявіцца афіцыяльны камунікат Рады Народных Камісараў, нармуючы стасункі Радаў да будучых радава-французскіх адносінаў. Якое назначэньне атрымае Ракоўскі, яшчэ не вядома.

### Міністар Залескі ў Парыжу.

Бэрлінскія карэспандэнты з Парыжу даносяць, што паміж міністрам Залескім і Брыянам вяліся гутаркі аб польска-радавым укладзе аб ненападаньні. Уклад гэты залежыць, па іх думцы, ад перагавораў, якія павінны пачацца паміж Францыяй і Радамі. Угаворана, што польскі і французскі ўрады будуць у цесным кантакце і гутаркі аб укладзе з Радамі пачнуць адначасна.

### „Праўда" аб французскай палітыцы.

Даручэньне, якое французскі ўрад даў Эрбэрту заявіць у Маскве аб адазваньні з Парыжу Ракоўскага „Праўда" называе „авантурыстычнай французскай палітыкай", бо не задоўга да гэтае заявы Эрбэрт запаўняў Радавы Урад у тым, што інцыдэнт з Ракоўскім лічыцца зліквідаваным. Французскія дыплёматы не павінны забывацца, што такая палітыка зьяўляецца надта вострай і можа давесьці справу да катастрофы, і што яна ня толькі не палепшыць эканамічнага стану Францыі, а наадварот значна яго пагоршыць.

### Зьмяншэньне войска.

Нямецкія народовыя газэты вельмі абураны тым, што Францыя мае замер вывесьці з Нямеччыны толькі 5000 акупацыйных жаўнераў, што сьвядома пярэчыць абяцанкам, зьмешчаным у ноце канфэрэнцыі амбасадораў ад 5 верасьня с. г. і дамагаюцца энэргічнага выступленьня ўраду Нямеччыны і катэгарычна жадаюць выпаўненьня дадзеных абяцанак.

### Мэты і заданьні немцаў.

Віцэ-канцлер Гэргт на кангрэсе нямецкай народнай партыі ў Ошатцу ў Саксоніі сказаў прамову, у якой выявіў, што нямецкая народная партыя пойдзе на выбары пад лёзунгам падтрыманьня прэзыдэнта Гіндэнбурга, абароны Райхсвэры і чорна-бела-чырвонага калёру.

Пасол нямецкай народнай партыі да Рэйхстагу граф. Готш, апошні сябра нямецкай дэлегацыі ў Жэнэве выказаў зажаленьне, што Лёкарнскія Дзяржавы ня прыслалі павіншаваньня прэзыдэнту Гіндэнбургу, што, па выразу прамоўцы, зусім не адпавядае духу Лёкарно. Далей граф. Готш сказаў:

Пад ніякім варункам ня можна дапусьціць да Усходняга Лёкарно. Галоўнымі мэтамі нямецкай палітыкі, над зьдзейсьненем якіх правыя партыі мусяць таксама ў будучыне працаваць, ёсьць вызваленьне Надрэніі, а роўна перагляд Усходніх граніцаў і пляну Даўса. Заграпічная палітыка немцаў у будучыне павінна зьвярнуць як найпільнейшую, увагу на Польшчу і Літву.

### Сітуацыя ў Кітаі.

Губэрнатар акругі Шансі гэнэрал Іен, пачаўшы змаганьне з Чанг Тсо Лінам, па тэлеграфу запрапанаваў яму пагадзіцца з тым, каб Чанг Тсо-Лін рэфармаваў свой урад. Апошні адказаў, што ён гатоў на згоду, але не згаджаецца на ўвядзеньне ў Кітаі радавага ладу. Войскі Чанг-Тсо-Ліна

---

*Ул. Короленко.*

# Судны дзень.

*(Іом-Кіпур)*

(Украінская казка).

Пераклала Вера Грыц.

> Агонь затух, а месяц усходзіць, у лясу пасецца ваўкалак.
> (Шэўчэнка).

## II.

Млынар прайшоў ня больш, як дзесяць сажняў, як раптам, у самым садочку, па за плотам нешта затрашчала і зашумела, быццам узьляцелі дзьве вялікія птушкі. Але гэта былі ня птушкі, а толькі хлапец з дзяўчынай, перапалоханыя неспадзяваным з'яўленьнем млынара з цемнаты. Урэшце, хлапец, мусі быць, быў не з палахлівых: адышоўшыся яшчэ далей у цень, так што ледзь бялелі пад вішнямі дзьве постаці, ён моцнаю рукою прытрымаў перапалоханую дзяўчыну і ізноў пачаў спакойную гутарку. А адышоўшыся яшчэ трохі далей, млынар пачуў нешта такое, што аж затрымаўся ад вялікай прыкрасьці...

— А ты,—ня ведаю, як цябе,— пачакаў бы хоць цалавацца,—сказаў ён. — А то цмокаеш на ўсю вёску,—сказаў ён, падышоўшы да самага плоту.

— А табе, сабачы сын, трэба ў чужыя дзьверы свой нос соваць? — адказаў хлапец з цені.—Дык вось жа пачакай, я і цябе пацалую палкаю па нагах. Будзеш другі раз ведаць, як людзям перашкаджаць.

— Ну, ну! — сказаў млынар адыходзячы.—Падумаеш, важную работу робіць... Але і подлы-ж нейкі хлапец, так цмокае, што навет чалавеку зрабілася як быццам зайздросна. Распусьціліся людзі!

Ен пастаяў, падумаў, паскроб у галаве і потым, зьвярнуўшы ў бок, пералез праз плот і пайшоў гародамі да ўдовінай хаткі, якая стаяла трохі далей, на краю вёскі, пад высокаю таполяю... Хатка была маленькая, ды яшчэ згорбілася і пахілілася да зямлі. Ваконца было такое маленечкае, што яго, навет, трудна было б і разглядзець, каб ноч яшчэ трохі была цямнейшая. Але цяпер хатка так і гарэла ўся ад месячнага сьвету, салома на ёй здавалася быць залатою, а сьцяна срэбнаю, і ваконца чарнела на сьцяне, як прыплюшчанае вока. Агня ў вакне ня было. Мусіць, старая з дачкою ня мела чым павячэраць, дык і ня было патрэбы паліць агонь. Млынар пастаяў, потым ціха стукнуў два разы ў ваконца і адышоўся ў бок. Нядоўга яшчэ ён і пастаяў, як дзьве поўныя дзявочыя рукі моцна абвіліся кругом яго шыі, а паміж вусоў дык навет нешта запалілася, як да млынаровых вуснаў прыліплі гарачыя дзявочыя вусны. Э, што тут і апавядаць! Калі вас хто так цалаваў, дык вы і самы ведаеце, а калі гэтага ніколі з вамі не здаралася, дык і ня варта гаварыць.

— Піліпка мой, мілы, жаданы!—гаварыла, ласячыся, дзяўчына,—прыйшоў такі... А я ўжо чакала-зачакалася, думала высахну без цябе, як тая кветка без вады...

„А, ня высахла такі, дзякуй табе Божа!—падумаў млынар, прыціскаючы рукою ня вельмі ценькі стан дзяўчыны.—Дзякуй Богу, нічога яшчэ".

— Калі-ж будзем прыгатаўляць ручнікі?—загаварыла дзяўчына, усё яшчэ трымаючы рукі на плячох Піліпа і палячы яго гарачым поглядам чорных вачэй. Ужо-ж і Піліпаўка блізка.

Гэтая гутарка ня так смакавала млынару, як дзявочыя пацалункі. „Бачыш ты, куды хіліць,—падумаў ён. Эх, Піліп, Піліп, дасьць яна цяпер табе лазьню". Але, усё-ж такі, набраўшыся адвагі і гледзячы ў бок, ён сказаў:

— Ах, якая ты, Галя, ласая. Зараз табе і ручнікі. Як-жа гэта можна, калі я цяпер сам млынар і хутка, можа быць, зраблюся першым багатыром у вёсцы, а ты — бедная ўдовіна дачка?

Дзяўчыну адшахнула ад гэтых слоў, быццам яе ўкусіла зьмяя. Яна адскочыла ад Піліпа і схапілася рукою за сэрца.

— А я думала... ох, бедная ж мая галава!.. Дык чаго-ж гэта ты, подлы чалавек, стукаў у ваконца?

— Эге!—адказаў млынар,—чаго стукаў... А чаму-ж мне і ня стукаць, калі твая матка вінна мне грошы? А ты выскачыла, ды проста цалавацца. Што-ж мне... Я таксама патраплю цалавацца ня горш людзей.

І ён зноў працягнуў да яе руку, але як толькі яго рука даткнулася да дзявочага стану, як стан гэты ўздрыгнуў, быццам дзяўчыну ўкусіла гадзіна.

— Вон!—крыкнула яна злосна, аж млынар падаўся назад. Я табе не паперка рублёвая, што ты мяне хапаеш, быццам сваю. Вось падайдзі яшчэ, я цябе так абагрэю, што ты пасьля гэтага гады са тры ня будзеш мець ахвоты ласаваць.

Млынар растраціўся.

— Вось, якая ганаровая! А што я, даруй Божа, жыд, ці што, табе даўся, што ты так паскудна лаешся?

— А ці ня жыд? За паўрубля ўжо рубель налічыў, ды яшчэ табе мала: да мяне палез па працэнты. Вон!—кажу табе—агідны!

— Але-ж і дзяўчына! — сказаў млынар, асьцярожна закрываючы твар далоняю, якбы сапраўды не пачаставала кулаком. Я бачу, з табою разумнаму чалавеку і гаварыць ня можна. Ідзі, пакліч сюды матку!

Але старая ўжо і без таго вышла з хаты і нізка кланялася млынару. Яму гэта больш спадабалася, чымся гутарка з дачкою. Ен узяўся пад бакі, і яго чорны цень на сьцяне так задраў галаву, што млынар ужо і сам падумаў, як гэта ў яго ня зваліцца шапка.

— А ведаеш ты, старая, зачым я гэта прыйшоў?—кажа млынар старой.

— Ох, як мне, беднай, ня ведаць! Мусі быць, прышоў ты па мае грошы...

— Хе! не па твае, старая,—засьмяяўся млынар, — а па свае ўласныя. Я-ж не які-небудзь разбойнік, каб поначы па чужыя грошы ў чужую хату прыходзіць.

— Вось-жа такі па чужыя і прышоў,—задорна сказала Галя, узяўшыся ў бакі і наступаючы на млынара,—не па свае!

— Фу, вар'ятка дзяўчына!—сказаў тута млынар, адступіўшы яшчэ два крокі.—Даль-Бог, такой вар'яткі ў-ва ўсёй вёсцы ня знойдзецца. Ды ня толькі, што ў вёсцы, але ў-ва ўсёй губэрні. Ну, падумай ты, якое слова сказала. Каб ня была вось тут толькі адна твая матка, якая і ня пойдзе ў сьведкі, дык я пацягнуў-бы цябе ў суд за зьнявагу! Абдумайся ты хоць трохі, дзяўчына!

— А чаго-ж мне думаць, калі гэта чыстая праўда?

— Якая-ж гэта праўда, калі старая ў мяне брала ды й не аддала?

— Брэшаш, брэшаш, як рудая сабака! Калі ты яшчэ быў падсыпкаю *) ды да мяне сватаўся, хацеў у прымы йсьці, і не казаў, што назад будзеш іх браць. А як дзядзька памёр, а ты сам зрабіўся млынаром, ужо ўвесь доўг перабраў, і яшчэ табе мала?

— А мука?

— Ну, што мука?.. За муку колькі належала?

— Па капе **), вось колькі! Таней ніхто не аддасьць, хоць куды хочаш едзь, навет хоць сябе аддай у прыдачу.

— А ад нас ты ўжо сколькі перабраў.

— Цю-цю, куды ты паехала. Язык таксама ў цябе... ня горш Харка. Але-ж я на гэта табе адкажу: а працэнты! Ну, што ўзяла?

Але Галя ўжо нічога не адказала. З дзяўчатамі гэта вельмі часта здараецца: гаворыць-гаворыць, лапоча-лапоча, як млын на ўсіх паставах, але раптам і стане... Падумаеш, вады не хапіла... Але-ж дзе там. Якраз паліліся рэчкаю-горкія сьлёзы, і адышла ў бок, усё выціраючы вочы шырокім рукавом белай кашулі.

— Вось так!—сказаў мельнік, трохі засароміўшыся, але ўсё ж такі задаволены. — Чаго б я гэта на людзей кідаўся. Каб ня лаялася, дык і ня было-б чаго плакаць.

(Далей будзе).

*) Падсыпка—работнік у млыне, які засыпае збожжа на камень.

**) Капа ў украінскай лічбе — 30 капеек.

